Просто хорошая газета

# Отдушина

12+

№23 (822) 3 июня 2020 года

Выходит один раз в неделю | Основана 18 октября 2002 года | Издатель УП «Газета Слонимская» | ГАЗЕТА РЕКЛАМНАЯ ДЛЯ ДОСУГА

ВЫБАРЫ-2020


Міхаіл Сашко

## МІХАІЛ САШКО:
## «Мы народ! Маем права абіраць сабе ўладу самі»

**З 21 траўня па 19 чэрвеня ўключна ў Беларусі ідзе збор подпісаў 14 ініцыятыўнымі групамі ў падтрымку прэтэндэнтаў на пасаду кіраўніка дзяржавы. Сваімі думкамі аб ходзе прэзідэнцкай кампаніі падзяліўся слонімскі актывіст незалежнага прафсаюза РЭП Міхаіл Сашко.**

**— Якія ўражанні ў Вас склаліся ад сёлетняй выбарчай кампаніі?**

— Сёлетняя выбарчая кампанія адрозніваецца ад папярэдніх тым, што яна праходзіць у самы разгар пандэміі. Беларускі правіцель, нягледзячы на эпідэмію каранавіруса, любой цаной захацеў застацца і далей правіць, здзекуючыся з беларусаў, і, скарыстаўшыся пандэміяй, правесці сваё стэрыльнае перапрызначэнне без назіральнікаў, абсалютна бескантрольна.

**— Якой стратэгіі падчас гэтай кампаніі будзе прытрымлівацца прафсаюз РЭП?**

— Рашэння кіруючага органа прафсаюзу па гэтым пытанні не прынята, але прафсаюз РЭП падтрымае ўсіх кандыдатаў, акрамя дзейнага кіраўніка Беларусі.

**— Чаму грамадзяне актыўна ставяць подпісы за пратэстных удзельнікаў у выбарах?**

— Беларусы актыўна падтрымліваюць пратэстных кандыдатаў таму, што антынародны правіцель давёў народ да галечы, знішчыў эканоміку краіны, сваімі ўказамі і дэкрэтамі ўтаптаў у бруд Канстытуцыю (асноўны закон), увёў у краіне рабства, знішчыў прававую сістэму краіны — людзям немагчыма адстаяць свае правы ні ў судах, ні ў пракуратуры, ні ў інспекцыі, ні ў міліцыі, ні ў ягонай адміністрацыі. Беларусы бачаць, што ўся створаная ім сістэма скіраваная толькі на захаванне неабмежаванай улады Лукашэнкі любой цаной, нягледзячы на шматлікія ахвяры.

**— Што Вы можаце сказаць пра новых прэтэндэнтаў ад пратэстных кандыдатаў?**

— Усе пратэстныя кандыдаты вельмі яркія, крэатыўныя асобы, якія, нягледзячы на рэпрэсіі, змаглі данесці да людзей усе праблемы, што стварыў для беларусаў антынародны рэжым Лукашэнкі за 26 гадоў свайго існавання.

**— Што Вы можаце сказаць аб традыцыйных апазіцыйных палітыках?**

— Лічу, што традыцыйная апазіцыя заняла правільную пазіцыю: выбары без Лукашэнкі і Ярмошынай. Бо калі ён заяўляе — я хачу і буду, а яна «лічыць» галасы, то выбараў у беларусаў няма сёння, не было ўчора і не будзе заўтра.

**— З чым звязана цікаўнасць у выбаршчыкаў да Віктара Бабарыкі і Валерыя Цэпкалы?**

— Магчыма, інтрыга ў тым, што з сябе і каго Бабарыка і Цэпкала уяўляюць, хто за імі стаіць і што яны прапануюць выбаршчыкам?

Праглядзеў іх інтэрв'ю. У мяне яны даверу не выклікаюць. Змяніць нелегітымнага дыктатара на легітымнага або варыянт уцягнення Беларусі ў РФ — жадання ў большасці беларусаў не выклікаюць.

**— Які кандыдат у прэзідэнты патрэбны сёння большасці беларусам?**

— На маю думку, патрэбна народу падтрымаць усіх кандыдатаў, якія за незалежную Беларусь, за сапраўдную ўладу заканадаўчую, выканаўчую і судовую.

**— Будзеце назіраць за выбарчай кампаніяй ці думаеце кагосьці падтрымаць?**

— Падтрымаю ўсіх, акрамя праўладных кандыдатаў і дзейнага кіраўніка.

**— Ці галоўная мэта ўладаў Беларусі ў тым, каб пасля выбараў не было пратэстаў?**

— Галоўная мэта рэжыму ў тым, каб ва ўмовах пандэміі адміністрацыйна ці падманам прыцягнуць народ на выбарчыя ўчасткі. Вялікая праблема ў рэжыму з'явіцца ў тым выпадку, калі людзі замест выбарчых участкаў выйдуць прагаласаваць на плошчу.

**— Які ўплыў аказвае пандэмія на выбары?**

— Выбарчая кампанія ў час пандэміі стварае моцна абмежаваныя магчымасці для ўсіх незалежных кандыдатаў і стварае спрыяльныя ўмовы для дзейнага правіцеля і яго спарынг-партнёраў.

**— Эпідэмія некалі скончыцца. Што зменіцца ў жыцці і палітыцы ў Беларусі пасля каранавіруса?**

— Спадзяюся, што Беларусь назаўжды пазбавіцца ад дыктатуры і ў бліжэйшым будучым будзе прававой дзяржавай. Дзяржавай для людзей, а не правіцеля і яго прыбліжаных!

**— Што хочаце сказаць выбаршчыкам?**

— Не ўдзельнічаем у гэтым цырку-шапіто і патрабуем выбараў без Лукашэнкі і Ярмошынай. Мы народ! Маем права абіраць сабе ўладу самі, а не наадварот — улада абірае сама сябе супраць волі народа!

**Сяргей БУЗУН**
ФОТА АЎТАРА

## В ВЫХОДНЫЕ НА ЦЕНТРАЛЬНОМ РЫНКЕ СЛОНИМА СОБИРАЛИ ПОДПИСИ ЗА БАБАРИКО И ЧЕРЕЧЕНЯ


Пикет за Бабарико

**В прошедшие выходные в Слониме собирали подписи за выдвижение кандидатов в президенты Беларуси.**

Слонимский активист независимого профсоюза РЭП Михаил Сошко на центральном рынке собирал подписи в поддержку претендента на пост президента Беларуси председателя партии «Белорусская социал-демократическая Грамада» Сергея Череченя.

На центральном рынке также был установлен пикет для сбора подписей за Виктора Бабарико.

Напомним, для регистрации кандидатом в президенты нужно подать в ЦИК не менее 100 тысяч подписей. Их сбор в стране будет продолжаться до 19 июня включительно.

**Сергей БУЗУН**
ФОТО АВТОРА

ПУТЬ К БОГУ

# Прославим Святую Пятидесятницу

**Христианская религия учит о троичности в лицах единого Бога — Отца, Сына и Святого Духа.**


ФОТО: IVONA.BIGMIR.NET
Троица

Во время Тайной вечери Господь говорит ученикам: «И я умолю Отца, и даст вам другого Утешителя, да пребудет с вами вовек» (Ин. 14:16). По Преданию схождение обетованного Святого Духа на апостолов произошло на пятидесятый день после Воскресения Христа. Отсюда и название праздника — Пятидесятница. В православных храмах праздничные богослужения будут совершаться 7 июня.

В Ветхом Завете было два праздника, которые стали прообразом новозаветных — Пасха и Пятидесятница. Оба торжества, первоначально входившие в годовой цикл евреев, с приходом Христа стали относиться ко всему человечеству. В Ветхом Завете это событие, когда Господь дал Моисею на горе Синай две скрижали с десятью Заповедями. По Преданию, это случилось на 50-й день после избавления от египетского рабства. Первый законодательный свод представлял собой союз между Богом и еврейским народом. За нарушение заповедей полагалась смерть — «удаляйся от неправды... ибо Я не оправдаю беззаконника» (Исх. 23,7). В праздник Пятидесятницы у евреев завершалась уборка зерновых. Священник приносил в жертву Богу два каравая хлеба из муки нового урожая.

Новозаветная Пятидесятница, по Преданию Церкви, имеет возвышенный смысл. Свидетелями чудесного сошествия Святого Духа стали иудеи, ставшие первыми христианами. Святой апостол Лука говорит: «И внезапно сделался шум с неба, как бы от несущегося сильного ветра, и наполнил весь дом, где они находились. И явились им разделяющиеся языки, как бы огненные, и почили по одному на каждом из них» (Деян. 2:2-3). В «Слове третьем на Пятидесятницу» святитель Прокл подмечает, что сошествие на апостолов Святого Духа имело похожие небесные знамения, что и на горе Синай (Исх. 19:18). Через грозный шум и небесное пламя ученики должны понять, что и в первом и во втором случае действует одна сила, удостоверяя, что Он — общий Бог для Ветхого и Нового Завета.

Знание и говорение на иностранных языках (глоссалия) было первым чудом от Святого Духа. В книге Деяний святых апостолов говорится: «...и исполнились все Духа Святого, и начали говорить на иных языках... и все изумлялись и дивились, говоря между собою: сии говорящие не все ли Галилеятяне?» (Деян. 2:4). Как могло так произойти, что ученики Христа — простые, необразованные рыболовы — внезапно стали понимать и изъясняться на неизвестных языках, если это не чудо? Многие святые отцы и исследователи Писания противопоставляют глоссалию рассказу о Вавилонской башне и смешению языков (Быт. 11:1-9). Апостолы получили этот дар для миссионерской деятельности и распространения христианства по всей земли ().

Кроме человеческих языков, ученики понимали животных. Вспомним преподобного Герасима (V век), который явил такой образец подвижничества, что даже лев ему служил и впоследствии умер на могиле старца.

Если в Ветхом Завете скрижали Завета Бога с людьми дается евреям, в новозаветное время Святой Дух подается всем, кто уверовал в Христа и является участником таинств Церкви. Святой Ириней Лионский учит: «Где церковь, там и Дух Божий, и всякая благодать». В Символе Веры Его именуют «Господом Животворящим» — Богом, который дает жизнь и имеет равную по почести с Отцом и Сыном славу. Об этом впервые говорится при Крещении Сына Божиего — Бог Отец свидетельствует, Сын крестится, а Дух сходит в виде голубя с небес (Мк.1:11). В знак глубокого уважения к третьей ипостаси единого Бога в православной церкви 8 июня также будет праздничный день.

**Максим СУДИЛОВСКИЙ**



ФОТО: ZHIROVICHI-MONASTERY.BY
Жировичский монастырь

**С 1 июня вновь открыл свои двери Жировичский монастырь, сообщает пресс-служба МинДС.**

Богослужения в монастыре совершаются ежедневно. С расписанием служб можно ознакомиться на официальном сайте святой обители.

При посещении территории монастыря, святых источников, зоосада и др. необходимо соблюдать рекомендации по профилактике заболевания: социальное дистанцирование, личную гигиену, респираторный этикет.

**Анна ВОЛОДАЩУК**
**anna@gs.by**

ФУТБОЛ. 1-Я ЛИГА

# «Слоним 2017» сыграл вничью с микашевичским «Гранитом»

**В субботу, 30 мая, на стадионе «Юность» в матче 7-го тура чемпионата Беларуси в первой лиге ФК «Слоним 2017» и ФК «Гранит» (Микашевичи) победителя не выявили.**

У ворот «Гранита»

**«Слоним 2017» — «Гранит» (Микашевичи) — 1:1 (0:1)**

**ФК «Слоним 2017»:** Шишлов — Чудук (к) Спасюк, Лозко, Казаков (Кошель, 79), Орлов (Сикоев, 66) — Чернодаров (Силинский, 62), Гузов — Берг (Артюх, 55), Корзун (Фазылов, 79), Сарамаха.

**Голы:** 0:1 — Шубович (39), 1:1 — Сикоев (74).

**Предупреждения:** Казаков (11), Гузов (33), Чернодаров (47), Спасюк (68), Артюх (81); Демидович (62), Шубович (89), Сапон (90).

**Зрители:** 150.

В первом тайме при равной игре с некоторым преимуществом хозяев, как ни странно, первыми отличились гости. Единственный удар по воротам оказался успешным. В который раз слонимской команде приходится отыгрываться. И болельщиков, пришедших на стадион, несмотря на дождь и неблагоприятную погоду, интересовало, как команда с этим справится.

После перерыва вышедшие на замену футболисты обострили игру и сумели изменить результат встречи. Мартин Артюх, обыграв нескольких соперников на фланге, совершил прострел вдоль ворот, которым удачно воспользовался Тимур Сикоев. Счёт матча стал ничейным — 1:1.

ФК «Слоним 2017» на этом не остановился и стремился добиться победы, но все его попытки оказались безрезультатными.

Лучшим игроком матча в нашем составе был признан центральный защитник и вице-капитан команды Алексей Лозко.

Трибуны

**Результаты остальных матчей 7-го тура:**

«Речицадрев» — НФК «Крумкачы» (Минск) — 2:1 (0:0)

«Волна» (Пинск) — «Локомотив» (Гомель) — 2:3 (0:0)

«Лида» — «Химик» (Светлогорск) — 0:0 (0:0)

«Арсенал» (Дзержинск) — «Нафтан» (Новополоцк) — 4:2 (1:0)

«Орша» — «Гомель» — 0:2 (0:2)

«Сморгонь» — «Ошмяны-БГУФК» — 1:1 (1:0)

В субботу, 6 июня, ФК «Слоним 2017» проведёт матч 1/32 Кубка Беларуси на выезде с командой второй лиги «СМИавтотранс» (Смолевичи).

**Сергей БУЗУН**
ФОТО АВТОРА

### Положение команд после прошедшего тура

| Команды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1) «Сморгонь» | 7 | 4 | 3 | 0 | 7-2 | 15 |
| 2) «Локомотив» (Гомель) | 6 | 4 | 2 | 0 | 19-8 | 14 |
| 3) «Речицадрев» | 7 | 4 | 2 | 1 | 8-7 | 14 |
| 4) НФК «Крумкачы» (Минск) | 7 | 4 | 1 | 2 | 13-8 | 13 |
| 5) «Волна» (Пинск) | 7 | 3 | 1 | 3 | 10-11 | 10 |
| 6) «Арсенал» (Дзержинск) | 5 | 3 | 0 | 2 | 7-8 | 9 |
| 7) «Лида» | 7 | 3 | 2 | 2 | 11-7 | 8 |
| 8) «Орша» | 7 | 3 | 2 | 2 | 10-7 | 8 |
| 9) «Ошмяны-БГУФК» | 7 | 2 | 2 | 3 | 8-8 | 8 |
| 10) «Гомель» | 6 | 3 | 2 | 1 | 11-4 | 6 |
| **11) «Слоним 2017»** | **7** | **1** | **2** | **4** | **4–9** | **5** |
| 12) «Гранит» (Микашевичи) | 7 | 0 | 1 | 6 | 5-14 | 1 |
| 13) «Химик» (Светлогорск) | 7 | 0 | 1 | 6 | 2-19 | -8 |
| 14) «Нафтан» (Новополоцк) | 7 | 1 | 3 | 3 | 8-11 | -9 |

ПРАБЛЕМА

# На адукацыю слонімскіх дзяцей не хапае грошай?

**Пад пагрозай закрыцця апынуліся музычная кафедра ў СШ №8 і ваенна-патрыятычны гуртох у СШ №2 Слоніма.**


Ідуць выпускнікі СШ №8 2019 года

У СШ №8 склікаліся раптоўныя бацькоўскія сходы на чале з намеснікам старшыні Слонімскага райвыканкама Тэрэсай Юшкевіч. Сустрэчы адбываліся на працягу некалькіх дзён. У сувязі са складанай эпідэміялагічнай сітуацыяй у клас заходзіла па дзесяць чалавек.

### З гісторыі

Музычная кафедра СШ №8 пачала дзейнічаць у 1989 годзе на базе сярэдняй школы №3. Тады ж быў набраны з маленькіх хлопчыкаў і дзяўчынак першы музычны клас. Летась школа адсвяткавала сваё 30-годдзе. За час свайго існавання ў ёй навучаліся дзясяткі таленавітых артыстаў, якія праслаўляюць не толькі наш горад, але нават краіну на рэспубліканскім і міжнародным узроўні. Неверагодным оперным вакалам неаднаразова здзіўляла таленавітая артыстка міжнароднага ўзроўню Алена Кананчук-Крывіцкая. Спявачка Вольга Змуршчык таксама прадстаўніца гэтай школы. Павел і Ксенія Лашчэўскія ў 2014 годзе мелі магчымасць злётаць у Мальту на дзіцячае Еўрабачанне. А колькі іх усяго — цяжка падлічыць. Яны — гонар Слонімшчыны. І вось... Чаму так здарылася і што будзе далей?

### На бацькоўскім сходзе

Прысутным на бацькоўскім сходзе бацькам паведамілі, што ўсё пачалося з 2011 года. Дзякуючы адмысловым пастановам Савета Міністраў, тады былі выкаранены ўсе навучальныя ўхілы ў школах. Грошы на іх больш не выдзяляюцца. Каб не губляць музычную кафедру пры школе, якая, несумненна, з'яўляецца брэндам, усе наступныя гады выканкам вышукваў сродкі ў раённым бюджэце. Для гэтага распрацоўваліся розныя варыянты, нават пісалі лісты ў Савет Міністраў і Палату прадстаўнікоў, але выніку яны не далі. Асабліва цяжкім у фінансавым плане стаў мінулы год — грошай не хапіла, прыйшлося зрэзаць колькасць музычных гадзін. Пакуль незразумела, ці хопіць іх на гэты год. Гэта можна будзе вызначыць толькі ў жніўні. Калі сродкаў хопіць, усё застаецца па-ранейшаму. Калі не, то на базе школы адкрыецца аддзяленне музычнай школы. Гэта значыць, настаўнікі застануцца на сваіх працоўных месцах, а дзеці будуць навучацца, але платна.

### Пытанні

Калі ўсё ж прыняць да ўвагі найгоршы сцэнарый, то ці кожны бацька зможа аплаціць навучанне свайго дзіцяці, улічваючы, што ў большасці заробак складае 300-375 рублёў? Ці не стане навучанне раскошай для сямейнага бюджэту? А спыненне навучання музыцы ці не стане трагедыяй для дзіцяці?.. А можа, не ўсё так кепска?

У аднаго з бацькоў мы пацікавіліся пра магчымы кошт заняткаў. Такі «прэйскурант» існуе ў Слонімскай школе мастацтваў. Нам паведамілі, што восем заняткаў па спецыяльнасці «сальфеджыа», «аркестр (хор)» там каштуе 15 рублёў за месяц. У столькі ж ацэньваецца адзін індывідуальны урок. Таксама разглядаўся варыянт зрабіць музычныя прадметы як гурткі.

### Што думаюць і кажуць зацікаўленыя

**Тэрэса Юшкевіч, намеснік старшыні Слонімскага райвыканкама:**



— Давайце мы вернемся да гэтага пытання ў чацвер, таму што пытанне яшчэ вырашаецца. Тады я вам афіцыйна на ўсе пытанні адкажу. Аб адным толькі дакладна скажу: СШ № 8 і СШ № 2 былі і будуць. Пакуль не прынята канчатковае рашэнне, давяраць чуткам не варта.

**Аляксандр Макарчук, кіраўнік музычнай кафедры**



— Я, к сожалению, работаю на этой кафедре и не могу комментировать — все, что бы я ни сказал, будет использовано против меня. Поэтому желательно разговаривать с родителями, которые в курсе и которые смогут что-то сказать. Я подчинённый человек. В остальном без комментариев.

**Уладзімір Дваежонаў, бацька:**



— Восьмая школа з музычнай кафедрай знаходзіцца ў густанаселеным раёне, што вельмі зручна і для мяне. Сын тут вучыцца і займаецца на музычным інструменце — акардэоне, як і многія іншыя хлопцы. Не трэба шмат часу аддаваць на паездку ў музычную школу і назад. Але тое, што зручна нам, на жаль, камусьці косткай у горле стаіць. Асабіста я не збіраюся чакаць рашэння лёсу музычнай кафедры восьмай школы да жніўня. Я хачу, каб мой сын працягваў тую справу, якая яму падабаецца і ў яго атрымліваецца. Я ўпэўнены, так думаюць многія бацькі. Праблему стварылі на роўным месцы па незразумелых прычынах.

**Максім СУДЗІЛОЎСКІ**
ФОТА З АРХІВА «ГС»

КУЛЬТУРА

# ЮНЫЕ СЛОНИМСКИЕ МУЗЫКАНТЫ СТАЛИ ЛАУРЕАТАМИ МЕЖДУНАРОДНОГО КОНКУРСА

**По итогам VIII международного конкурса «START. Путь искусств» Творческого объединения ТРИУМФ в г. Санкт-Петербурге юные слонимские артисты завоевали звания лауреатов.**


Дарья Новикова и Елена Снитко

Конкурс «START. Путь искусств» объединил в одном интернет-пространстве сотни талантов из Беларуси, Казахстана, Молдовы и России.

Ученики Слонимской детской школы искусств Елена Снитко и Дарья Новикова приняли участие в этом проекте и показали достойные результаты.

В номинации «инструментальное исполнительство, дуэт» Елена Снитко (виолончель) и Дарья Новикова (фортепиано) стал лауреатом I степени.

В этой же номинации Елена Снитко стала лауреатом II степени.

Конкурсанты получили отзывы от профессионального международного жюри из Чехии, Франции, Италии, Нидерландов, а их преподаватели Снитко С.В. и Полонская О.А. были награждены благодарственными письмами.

**Жанна ИВАНОВА**

ЗВЕСТКІ З МАСТОЎШЧЫНЫ

# МІКЕЛЕЎСКАЯ ШКОЛА НА САМАІЗАЛЯЦЫІ

**Пасля таго, як у адной з настаўніц Мікелеўскай СШ тэст на каранавірус аказаўся станоўчым, навучальную ўстанову зачынілі для наведвання.**

Ва ўсіх вучняў у панядзелак узялі аналізы, вынікі якіх будуць вядомыя праз пяць дзён. Дзецям рэкамендавана заставацца дома. Фактычна яны знаходзяцца на самаізаляцыі.

Гэтая школа-сад самая малая ў раёне па колькасці вучняў. Разам з дзецьмі дашкольнага ўзросту тут налічваецца каля 30 навучэнцаў. Колькасць настаўнікаў і тэхперсаналу — болей за 30 чалавек.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**



# Ретушь и замена фона

У нас в фотостудии «Контрабас» есть несколько услуг, за которыми часто обращаются люди при печати на холсте. Это восстановление старых фотографий, ретушь и замена фона.

Как часто бывает, о наших близких и дорогих людях остается память только на старых снимках. Хорошо, что у нас есть возможность помочь сохранить память надолго. Сначала фотографию из аналоговой мы переводим в цифровую, потом идет процесс восстановления и ретуши. Мы удаляем все царапины со старых снимков, восстанавливаем цвета, придаем больший объем фотографии. Затем подготовка к печати. Следующий этап — печать на холсте и натяжка на подрамник.

И вот разорванная когда-то фотография получает новую жизнь!

Замена фона тоже довольно частая просьба при создании холстов.

Часто бывает так, что людям нравится снимок, но на заднем плане находятся предметы, которые совсем не хотелось бы видеть на своей фотокартине. В этом случае мы можем заменить фон. Мы делаем несколько вариантов и присылаем их для утверждения. И когда мы согласовываем лучший для них вариант, только после этого холст идет в печать.

А бывает и такое:

**— Какой лучше фон подобрать? Природа, нейтральный текстурный, размытый ночной город?**

— Может, природу... Но точно не город.

**— Высылаю варианты.**

— Да, город смотрится наиболее удачно. Печатаем с городом!

Вы можете смело обратиться к нам за консультацией, и наши дизайнеры смогут помочь вам в выборе лучшего варианта для вашей фотокартины.

**Ольга НОВГОРОДСКАЯ**



НА ЗАМЕТКУ

# ДО 1 ИЮЛЯ СОМА ЛОВИТЬ НЕЛЬЗЯ

**Слонимская межрайонная инспекция охраны животного и растительного мира напоминает, что на территории Гродненской области с 31 мая по 1 июля действует запрет на лов сома обыкновенного, связанный с его нерестом.**



Незаконная добыча сома обыкновенного в указанные сроки, отмечают инспекторы, влечет административную ответственность в виде штрафа в размере от 20 до 50 базовых величин, что в денежном выражении составляет от 540 до 1350 рублей, а также возмещение вреда, причиненного окружающей среде, в трехкратном размере — 12 базовых величин (324 рубля) за один экземпляр без учета веса и размера.

**Жанна ИВАНОВА**

КОНКУРС

# ОПРЕДЕЛЕНЫ ПОБЕДИТЕЛИ КОНКУРСА «КОРОНА-МОДА»

**Рады вам сообщить итоги конкурса на лучшую защитную маску «Корона-Мода», который проводила «Газета Слонимская» совместно с магазином «Ткани».**

В конкурсе приняло участие 12 фотографий.

По результатам голосования места победителей распределились следующим образом.

1-е место (51 голос) — у Юлии Быльчинской.

Всего лишь один голос разделил места победителей, и 2-е место с результатом в 50 голосов — у Юлии Сидорик.

За фотографию Виктории Максименко свои голоса отдали 23 читателя.

**Награждение победителей состоится 4 июня в 17 часов 30 минут в магазине «Ткани», который находится по адресу: г. Слоним, ул. Коссовский тракт, 100.**

Ещё раз поздравляем победителей, а всех участников благодарим за активное участие в конкурсе и ждем новых фотографий в новых фотоконкурсах.

**Юлия ТОЛКУН**


Юлия Быльчинская заняла 1-е место


Юлия Сидорик заняла 2-е место


Виктория Максименко заняла 3-е место

# Ешьте на здоровье!

## СВИНИНА, ТУШЕННАЯ ПО-ПОЛЬСКИ



Свинина, тушенная по-польски, получается очень мягкой, сочной и вкусной. Для приготовления этого блюда лучше купить свиную вырезку, репчатый лук можно добавлять или же исключить его из перечня ингредиентов. Обжаривать мясо следует на масле растительном, но можно использовать и свиной смалец или предварительно пожарить сало, а затем уже приступать к жарке мяса.

Тушить мясо следует 30-45 минут, правда, время во многом зависит от того, какая часть свинины используется для приготовления блюда. К примеру, свиная вырезка уже через 30 минут тушения станет мягкой, а вот мякоть свинины буде тушиться не менее 45 минут.

Подавать свинину тушеную по-польски следует с молодым отварным картофелем или же каким-нибудь другим гарниром. В целом мясо сочетается с чем угодно, его даже можно смело подавать и без ничего, если на это есть желание.

**Ингредиенты:**

свиная вырезка — 350-450 г
соль — по вкусу
перец черный молотый — по вкусу
лук репчатый — 70-100 г
масло растительное — для жарки мяса
вода — приблизительно 100 мл
мука — 1,5 ст. л.
зелень для украшения готового блюда.

**Как приготовить:**

1. Свиную вырезку очень хорошо вымойте, а затем острым ножом нарежьте ее на средние по размеру кусочки.
2. Репчатый лук очистите, сполосните под краном проточной водой, нарежьте его полукольцами или же кубиками.
3. На сковороде разогрейте масло растительное и выложите кусочки нарезанного мяса.
4. Обжарьте мясо буквально минут 5-7, а затем выложите к нему нарезанный репчатый лук.
5. Обжарьте лук до мягкости вместе с мясом. По времени эта процедура займет не более 3 минут.
6. Влейте в сковороду воду, добавьте соль и перец черный молотый по вкусу.
7. Затем добавьте муку и очень хорошо все перемешайте.
8. Поставьте сковороду на плиту, накройте ее обязательно крышкой. Тушите мясо в течение 30-45 минут.
9. Подавайте свинину, тушенную по-польски, прямо в сковороде к столу, а можете разложить блюдо порционно в тарелки. Сверху не забудьте выложить вымытую и измельченную зелень. Это может быть укроп, петрушка или же какая-то другая зелень.

## КУРИНАЯ ГРУДКА В СМЕТАНЕ В МУЛЬТИВАРКЕ



Куриная грудка в сметанном соусе — блюдо, которое можно есть практически всем. Куриные грудки при неправильном приготовлении становятся суховатыми, но если их потушить в сметане, то они получаются мягкими и сочными. Для этого можно воспользоваться казаном, глубокой сковородой или мультиваркой.

Многие хозяйки готовят курицу чаще, чем другое мясо. Её можно жарить, варить, тушить. Курица хорошо сочетается с любым подливом: томатным, сметанным, овощным. Куриное мясо является диетическим продуктом, поэтому его можно включать в диетическое меню. Но в таком случае нужно правильно подобрать к нему соус.

**Чтобы приготовить куриную грудку в мультиварке в сметане, вам понадобятся:**

куриные грудки — 0,6 кг;
репчатый лук средний — 3 шт.;
чеснок — 5 зубчиков;
сметана 15% — 250 г;
соль; вода — 250 мл;
перец чёрный горошком — 8-10 шт.;
тмин — щепотка;
масло подсолнечное рафинированное — 1 ст. л.

**Способ приготовления:**

Куриные грудки вымойте, разрежьте на 2-3 части.

Очищенный от шелухи лук ополосните в холодной воде. Порежьте полукольцами.

Чеснок очистите, измельчите ножом.

В чашу мультиварки налейте масло, включите режим «Жарка».

Когда масло хорошо нагреется, положите куриные грудки.

Не закрывая крышкой, немного их обжарьте.

Положите лук, перемешайте. Спассеруйте его до мягкости.

Не стоит его сильно обжаривать, потому что это отрицательно скажется на цвете соуса. Добавьте чеснок, перец, тмин.

Сметану разведите горячей водой, тогда во время тушения она не свернётся.

Залейте сметанным соусом мясо.

Опустите крышку мультиварки. Переключите режим мультиварки на «Тушение». Установите время приготовления 1 час. Примерно через полчаса блюдо посолите по вкусу.

Если вам покажется, что жидкости мало, добавьте немного кипятка.

В готовом виде мясо получается мягким и сочным, а подлива имеет однородную консистенцию.

Пока курица тушится, приготовьте гарнир. Это может быть рис или картофельное пюре. На тарелку положите гарнир, рядом уложите куриные грудки с луком. Полейте всё сметанным соусом. Посыпьте укропом.

КУЛИНАРНЫЙ СОВЕТ

## КАК СВАРИТЬ КУРИНУЮ ГРУДКУ ДЛЯ САЛАТА, ЧТОБЫ ОНА БЫЛА СОЧНОЙ



Очень часто хозяйки сталкиваются с такой проблемой, как сухость отварного куриного мяса. Сегодня мы расскажем главный секрет сочности куриной грудки. Куриное филе, приготовленное таким образом, очень хорошо использовать в различных салатах или даже просто подать с каким-либо гарниром. Смесь специй не обязательно такая, можно менять ингредиенты по своему вкусу. Хорошо получается такое филе с прованскими травами.

**Ингредиенты:**

куриное филе;
соль;
смесь перцев;
сушеный чеснок;
паприка.

**Как приготовить:**

1. Отделить большое филе от малого и убрать все пленки.
2. В большом сделать надрез
3. Посолить, добавить специи внутри, а также по желанию снаружи, но это необязательно.
4. Вложить малое филе внутрь большого так, чтобы узкий конец одного филе совпадал с широким концом второго.
5. Плотно закрутить в пищевую фольгу.
6. Опустить в кипящую воду и варить ровно 5 минут. Затем огонь выключить и оставить так филе под крышкой минимум на 40 минут.

**vsevkulinary.ru**

**Страницу подготовила Анна ВОЛОДАЩУК, anna@gs.by**

# ПАЗНАЙ СЯБЕ НА ФОТА

**Паважаныя чытачы! Пазнавайце на старых фотаздымках сябе, сваіх знаёмых і блізкіх і тэлефануйце нам: 8 (01562) 29-999, 8 (029) 133-04-21 у працоўныя дні з 9:30 да 17:30. Найбольш цікавыя расповеды пра герояў здымкаў будуць надрукаваны ў газеце.**



Прыгажуні з кветкамі



У народных строях

На фотаздымак слонімцаў у народных строях, змешчаны ў мінулым нумары газеты, водгукаў ад чытачоў не было.

**Мікола КАНАНОВІЧ**
ФОТА З АРХІВА «ГС»

НА ПАЭТЫЧНАЙ ХВАЛІ

# АНТЫВІРУСНЫЯ ПРЫПЕЎКІ

ПРАЦЯГ. ПАЧАТАК У №22

***
Не чапляйся, вірус,
Не буду з табою:
За два дні ты пастарэў,
Ужо з барадою.
***
Вады ў ванну
напусціла
І палезла мыцца.
Вірус дзверы адчыніў.
Ён прыйшоў галіцца.
***
Я памыла рукі,
Я памыла ногі.
Лекара чакаю
З хуткай дапамогі.
***
Быў у мяне настаўнік,
Быў у мяне артыст.
Цяпер абнімае
Інфекцыяніст.
***
З мілым не сумуем,
Хоць не сустракаемся.
Мы каханнем разам
з ім
У анлайн займаемся.
***
Закахаўся ты ў мяне,
Падхапіў інфекцыю.
Дык цалуй, цалуй
хутчэй,
Не чытай мне лекцыю.
***
Не чарні, мілы, мяне,
Не рабі як сажу.
Калі будзеш
раўнаваць,
Вірусам намажу.
***
Раней з мілым я
гуляла
У парку, дзе акацыі.
Цяпер з Муркаю сяджу
Я на ізаляцыі.
***
— Ведаю, мой мілы,
Ходзіш да Парасkі.
— Каханнем не
займаемся,
Шыем людзям маскі.

**2020 год**

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

# АДЦВІТАЮЦЬ ВІШНІ...



**Адцвітаюць вішні**

*По сваіх былых*
*гаспадарах*
*Плачуць вішні белымі*
*слязамі*
РЫГОР БАРАДУЛІН

На чорнай раллі —
Вішань белых
пялёсткі.
Даць завязь змаглі,
Ды зляцелі так
порстка*.

Размяце вецер іх
Па пасаджанай бульбе,
Як памяць пра тых,
Хто ўжо ў Бога на
службе.

Хто тут вішні садзіў,
Каб пакінуць іх дзецям,
Той усім дагадзіў
Прыгажосцю на свеце.
***15.05.2020***

*Порстка — хутка (дыялект)

**Люстэрка бацькоў**

Павесіў у хаце зноў
Люстэрка бацькоў.
Знялі пасля смерці
маці —
Няўтульна зрабілася
ў хаце...
Хай цяпер
адлюстроўвае нас
І наш тут адвечны час.
***10.05. 2020 Вострава***

**Мікола КАНАНОВІЧ**

# Пляшывы жаніх



МАЛЮНАК ЯЎГЕНА ІВАНОВА

— Дзе цябе носіць?! Увесь тыдзень хаджу сюды як на дзяжурства. І званю ў дзверы, і стукаю — не адчыняеш.

Цётка Верка, злосная, ажно трэсліся тоўстыя і чырвоныя як памідоры шчокі, сустрэла Васіля Каўзунка ля пад`езда вялікага шматпавярховіка. Ружовы шалік, якім яна падвязвала адрослую завіўку, перакруціўся вузлом на вуха. Было горача, і яна зняла вязаную кофту, павесіла на руку да шэрай дэрмацінавай сумкі, пляскатай, відаць пустой.

— Я быў у камандзіроўцы, а дзе мама — не ведаю. Павінна быць дома, бо ўжо тры месяцы як на пенсіі.

— Павінна быць дома... — перадражніла. — У тваёй мацеры клёпкі ў галаве рассыпаліся. На старасці знайшла сабе нейкага пляшывага жаніха. Напэўна, замуж пойдзе.

— Замуж?!

— Ну... З маладосці як мой брат кінуў, прасядзела адна, а цяпер бачыш што вырабляе!

Бацька пайшоў з сям`і, калі Васіль быў у першым класе. Маці адна выгадавала, дала адукацыю. Ён лічыў, што ім удваіх добра і не патрэбен тут ніякі пляшывы жаніх.

— Давай пасядзім на лаўцы ў цяньку, бо я не хачу падымацца да вас на дзявяты паверх. Там такая духата, як у пекле.

Цётка паклала на лаўку сумку, села сама, паляпала рукой па сініх рабрынах, запрашаючы сесці і яго. Доўгі і худы, як вятрак, Васіль, расшпіліўшы гузікі зялёнай тэнісі, апусціўся побач, выцягнуў ногі.

— А дзе ж мама знайшла таго кавалера? — спытаў незадаволена. Ён адшпіліў дарожную сумку, дастаў літровую бутэльку мінералкі. Надпіў, а потым моўчкі працягнуў цётцы.

— Не хачу. Няйначай цёплая як памыі. Я п`ю толькі з халадзільніка. Прывыкла.

Цётка была дзеўкай-векавухай, ды ўжо і не дзеўкай, а бабай-векавухай. У яе не было большага клопату, як дзяўбці Васілёву маці, павучаць яе. А цяпер, як пайшла на пенсію, наогул не злазіла з карку беднай Антаніны.

— Здзіўляюся, што ты нічога не ведаеш, — не адказаўшы на пытанне пляменніка, задала сваё: — Не званіў ёй хіба?

— Званіў, але пра гэта гаворкі не было.

— Таемная! Я таксама выпадкова даведалася. Так бы мовіць, прыперла яе да сцяны, то прызналася. У тэатры, кажа, пазнаёміліся, месцы побач былі. Ён нібыта яшчэ ні разу не жаніўся. Хацела выпытаць, якая ж у яго кватэра, а то, можа, да старасці дажыўшы, і кутка свайго не мае, па чужых туляецца. Вось як прыграбецца сюды з усімі сваімі манаткамі, то будзе табе весела!

— А я, цётка Верка, тады да цябе перасялюся, ты ж адна жывеш... — хітра прыжмурыў адно вока Васіль.

— Яшчэ чаго! — абурылася. — Я адна прывыкла. Каб ціха, каб нават муха не пралецела, не тое што ты будзеш шлэпаць сваімі тапкамі сорак апошняга размеру. Пазвані ёй цяпер, пазвані. Спытай, дзе яна. Маўляў, прыехаў, а ў кватэру не ўлезеш, бо ключы згубіў. Няхай свае вязе.

— Ты ўжо дома, сынок? — здзівілася Антаніна. — А павінен жа прыехаць паслязаўтра...

— Раней справіўся і прыехаў. А ты дзе, мама? Ключы вязі, бо я свае згубіў.

У мабільніку паўза, нейкі шэпт, а потым сарамлівы мацярынскі голас:

— А я тут у гасцях у Альберта Ціханавіча... Мы сябруем...

— А ён што, не працуе, раз сярод белага дня сядзіць дома?

— Працуе. Дакладней, будзе працаваць...

— Яшчэ толькі будзе! А так на тваёй шыі сядзецьме?! На маю няхай не разлічвае. Мне жаніцца трэба, а не ўсякіх тут пляшывых Альбертаў карміць-паіць.

— Ужо Верка перастрэла і ўсё распляскала, — здагадалася.

— А хоць бы і так! Нехта ж павінен расказаць, калі ты трымаеш у сакрэце ад мяне такія рэчы.

— Раскажу. І абавязкова пазнаёмлю вас. Альберт Ціханавіч табе спадабаецца.

— Яшчэ не факт, што спадабаецца. І знаёміцца не хачу, не патрэбен мне айчым!

Праз якую гадзіну маці вярнулася дадому. Яна проста свяцілася ад шчасця. Памаладзела, расцвіла. Блакітная сукенка аблягала стройную постаць, валасы ўкладзены ў акуратную прычоску. Нават басаножкі на абцасах абула. Беленькія, відаць, новыя, бо раней Васіль іх не бачыў

Пакуль маці ў спальні пераапраналася ў дамашняе, у яе сумцы зазвінеў мабільнік. Васіль узяў і ўбачыў, што гэта Альберт Ціханавіч.

— Тонечка, як даехала? — пачуўся густы бас.

— Здароў, пляшывы жаніх! — развязна сказаў Васіль. — Гэта не Тонечка, а твой пасынак. Хачу папярэдзіць, каб забыўся сюды дарогу і забыўся гэты нумар. Інакш не паздаровіцца.

Адключыўшы тэлефон, парадаваўся, што гэдак лоўка адшыў Альберта.

На наступны дзень адпачываў. Прагульваючыся па парку, убачыў, што маці, якая з самай раніцы нібыта паехала да сяброўкі, няспешна крочыць пад руку з нейкім тоўстым дзядзькам.

— А, пляшывы жаніх! — здагадаўся, параўняўшыся. — Яшчэ раз убачу побач з ёй, пашкадуеш. Я ўжо папярэджваў.

Назаўтра, як прыйшоў на работу, загадчык аддзела сказаў:

— Цябе новы дырэктар выклікае, даложыш пра камандзіроўку.

— А што, ужо прызначылі?

— Ага. Альбертам Ціханавічам завуць. Строгі такі, тоўсценькі...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Главный редактор Николай Николаевич Кононович

Учредитель
**Анна Павловна ВОЛОДАЩУК**

ГАЗЕТА ВЫХОДИТ НА РУССКОМ И БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКАХ

**Телефоны редакции:**
Velcom: 8-029-133-04-21
**факс:** 8 (01562) 2-90-00
звонить с 9.00 до **18.00**
**Skype — gazslon**

Для корреспонденции:
231799, г. Слоним,
ул. Красноармейская, д.41
Юридический адрес:
г. Слоним, ул. Красноармейская, 41

Регистрационное удостоверение №65 от 05.03.2009 года выдано Министерством информации Республики Беларусь. Свидетельство о госрегистрации УП "Газета Слонимская" ЮКЛ № 001845, выданное Гродненским областным исполнительным комитетом от 03.04.2003 г.

Авторы опубликованных материалов отвечают лично за подбор и достоверность фактов, их точка зрения может не совпадать с мнением редакции. Редакция не ведет переписки с читателями и оставляет за собой право не рецензировать и не возвращать рукописи. Редакция не несёт ответственности за содержание рекламы.

**Свободная цена**

Тираж номера 2500 экз.

Время подписания к печати по графику 2 июня 2020 года 17:00

РЕКЛАМНАЯ СЛУЖБА
8(044) 715-90-03
8(044) 762-48-39; 8(044) 715-90-03
ул. Красноармейская, 41
**e-mail:** gs@gs.by, gazslon@gmail.com

Объем — два условных печатных листа.
Газета отпечатана в ГОУПП "Гродненская типография", Гродно, ул. Полиграфистов, 4. индекс 230025
ЛП №02330/39 от 27.03.2014
Заказ № 2475

Распространяется с газетой "Газета Слонимская" по подписке и в розницу по Республике Беларусь

ISSN 1991-3362




